# РОДНЫЯ ВОБРАЗЫ



* * *

На бацькоўскі ступіла парог —
Зашчымела нясцерпна сэрца.
Я ішла сюды з доўгіх дарог,
Каб душою збалелай сагрэцца.

Што ж цяпер я застыла нясмела,
Як струна ўся нацятая?!
Так істота мая скамянела —
Увайсці не змагла ў хату я.

На падворку радзімым стаю
Я чужою для саду і хаты...
Цепляць тут ўжо душу не маю
Рукі маці і голас таты.

Замест прызбы — падмурак цагляны.
І страхі саламянай няма...
Конь дзяцінства майго расцугляны
Са мной будзе не спаць давідна.

* * *

З пажоўклага фотаздымка
глядзяць на мяне
яшчэ маладыя,
але без часу пастарэлыя
бацька і маці,
ва ўдумлівых паглядах якіх
столькі перажытага,
што хапіла б
на некалькі жыццяў.



Маці годна прайсці хацела
Богам наканаваны шлях.
Шчасця і радасці мала мела —
Кросны, кудзеля, браты на руках.

У школу з ахвотай не бегла, ляцела —
Да ведаў цягнулася сэрца.
У хоры царкоўным дыскантам пела.
— Хопіць, — бабуля сказала, —
вучоба не трэба дзеўцы.

Зведала крыўду, голад, нястачу,
Шчырай у словах і ў працы была.
Бачыла зводдаль нават удачу —
Хмары закрылі... Вайна.

Муж без вестак прапаў, недзе згінуў,
Ад тыфу дачка памерла.
Ў зямлянках хаваліся лета і зіму —
Выпрабаванне Богава, пэўна.

Маці годна жыццё пражыла,
Сілу яе на сябе прымяраю,
Шляхам іду, як матуля ішла.
Долю не зменіш — а я й не жадаю.



Снайпер фашысцкі сядзіць на сасне,
Цэліцца ў скроню.
Бацька-салдат па Еўропе ідзе,
Пот выцірае далонню.

Смагай спякота на вуснах застыла,
Ногі здранцвелі.
Каску нямецкую нейкая сіла
Насуперак волі надзела.

Дагнала салдата варожая куля —
З чужою зямлёю змяшалася кроў...
Змоўкла на момант у лесе зязюля
Ды кукаваці ўзялася ізноў.

— Дзякуй, зязюля, кувай мне гадочкі,
Трэба вярнуцца жывым:
Дома чакаюць тры кветачкі-дочкі —
Бацька я ім.

Мой будучы бацька вярнуўся дамоў,
Я нараджэння чакала.
Нямецкая каска ад смерці ліхой
Бацьку майго ўратавала.



Люстэрка доўга разглядала
мая матуля.
Нарэшце ўсё-такі сказала:
— Няякаснае шкло:
палоскі нейкія на твары,
раней іх не было,
няякаснае шкло.
Глядзецца мне ў люстэрка
рэдка выпадала,
але ж калі здаралася глядзецца,
то люба-дорага было на сэрцы:
такая якасць шкла!
І я прыгожая была,
і людзі так казалі.
А сёння — што на твары?
Не, то няякаснае шкло.

* * *

*Агрыпіне Гулевай*

Ты адна засталася з радні,
З табой бачымся, мілая, рэдка.
Пралятаюць Падвеямі дні
Ды на твары — адметка, адметка...

Шлях твой Доля з Нядоляю выткалі,
Палатно на шчасце раскквецілі:
Вышывалі чырвона-чорнымі ніткамі,
Непасільнаю працаю песцілі.

Ты не скардзілася і не ныла,
Працавала, жыла, весялілася.
Дабрыні і цяпла на сотні хапіла,
Аддаваць за жыццё не стамілася.

Я табой ганаруся, радзімая,
Прыпадаю да рук тваіх стомленых.
Прыгажосць недасяжная, дзіўная
У паглядзе вачэй тваіх ўдовіных.

* * *

А хто ж мне парадачку дасць?
— Татачка родненькі.
А хто ж мяне пашкадуе?
— Матуля любая.
А хто ж мяне прыгалубіць?
— Каханы-суджаны.
А хто ж са мной пагаворыць?
— Сястрыца мамчына.
А хто ж мяне, хто прыплача?
— Сястрыца таткава.
А да каго ж прыхілюся?
— Да брата крэўнага.

Пагукала, пагукала...
Ніхто не азваўся.



Ад зімы да лецейка
Цягнуцца дзянёчкі,
Ўспамінае маміны
Словы доня-донечка.

Ах, як грэе маміна
Прыгаворка гэтая:
— Перазімавалі зімачку,
Можа, й пералетуем.

Ападае лісцейка —
З мамай не сумуем:
Лета пералетавалі,
Мо й перазімуем.

Мамачка, матулечка,
Як бы сёння чулася,
Да цябе, гаротніцы,
З сэрцам прыгарнулася!

А вясной з салоўкаю —
Прыгаворка гэтая:
— Перазімавалі зімачку,
Можа, й пералетуем.

* * *

Нічога не вяртаецца назад:
Ні гэты міг, ні гэты дзень, — я знаю.

*Я. Янішчыц*

«Нічога не вяртаецца назад...» —
У дзень той спадарожніцам чытала.
Не ведала, што ты — у снегапад!
І на зямлі адной сняжынкай болей стала.

«Нічога не вяртаецца назад...» —
Шчымліва ў вершы ты сваім пісала.
О, як нявесціцца вясновы сад!
Ды кветачкай адною ў свеце меней стала.

А сёння вершаў розных — цераз край.
І шкадаваць як быццам не да твару,
А я крычу у лістапад праз май:
— Мой Бог, вясну вярні, вярні паэту мару!

О, як змяніўся свет за гэты час!
Чаму ж ты крылы ластаўчыны склала?
Няма тваёй усмешкі сярод нас —
І песняю тваёй на свеце меней стала.

Вясну любіла, спелае жніво,
«Сланечнікі» і «Касачы» Ван Гога,
У глебы брала сілу і цяпло,
Ірвалася да зор — у вечнасць йшла дарога.

Твой лёс паэта — неба прыгавор.
Beata solitudo* так натхняла!

---

* Beata solitudo *(лат.)* — блаславенная адзінота.

Магнітам быў Галактыкі прастор —
І зоркаю адной на небе болей стала.

* * *

*Нілу Гілевічу*

Няўтульна голаму Дрэву
позняй восенню,
маўчыць Яно.
І ёсць штосьці высокае
і трагічнае ў гэтым маўчанні.
Трапеча на ім адзінокі лісток,
распяты ветрам і сцюжаю.
І маё сэрца трапеча
разам з тым лістком,
і маё цела сцінае холад,
як сцінае ён тое Дрэва.
Ад голькі лісток адарваўся
і, падхоплены ветрам,
закружыўся мройна-шчаслівай
мелодыяй палёту.
З тым лістком кружу-у-ся,
апускаюся на зямлю і я.
І мы трапляем пад абцас
няспыннага часу.

## Малітва

Божа літасцівы!
Прашу цябе,
Дапамажы Нілу Сымонавічу,
Тваёю ласкаю дабраславёнаму
На справы праведныя.
Дай яму сілу сказаць Тваё Слова.
Дыхні на яго лагодным ветрыкам,
Каб і яму лягчэй дыхалася.
Сагрэй яго баляшчыя рукі
Сонечнымі праменьчыкамі,
Каб яму яшчэ пісалася.
Прыкладзі да ног яго
Зёлкі лясоў Тваіх,
Каб яго ножанькі хадзілі.
Напоўні сэрца яго радасцю
І дай нам магчымасць
Чуць яго і бачыць
Яшчэ многа гадоў.
У імя Айца і Сына
І Святога Духа,
Амін!

* * *

*Нілу Гілевічу*
*і Ялінцы Салаўёвай*

То не вецер ломіць,
Не маланка паліць,
То паэта годнасць
Топчуць,
бэсцяць,
ганяць.

Божа ж Ты, мой Божа,
Прасвятлі ім вочы,
Каб жа не блудзілі
Ані ўдзень, ні ўночы.

А Ялінцы-кветцы
Шчасце дай і сілу,
Праз яе павага
К мове не загіне.



*Георгію Шыловічу*

Ой вы, ногі мае,
Ой вы, быстрыя.
Ой вы, думкі мае,
Ой высокія.

Толькі што ж за бяда
Прылучылася,
Толькі што ж за напасць
Навалілася!

Я падняць не магу
Ногі-ножанькі
І пайсці не магу
Па дарожаньцы.

Рвецца сэрцайка ўвысь
Смелым сокалам.
Цягне ложак уніз,
Ой ды волакам.

А бывалі ж дзянькі
І вясёлыя.
І сталы ў нас былі
Хлебасольныя.

А цяпер цішыня
Пасялілася.
І дарога жыцця
Прытамілася...

* * *

*А. М. Шыловіч*

Хоць лютуе люта люты —
Неба ясніцца вакол.

*Я. Янішчыц*

Даўно ўжо люты не лютуе,
Ды выдаліся ўсё ж дзянькі:
Прырода інеем чаруе,
Іду няспешна напрасткі.

Ў маўчанні дрэў, схіліўшых голле,
Святочнасць, велічнасць пануе.
Карункавае наваколле
Настрой лірычны мне дыктуе.

Згадаліся сустрэчы шчырыя
І чалавечнасць сэрца Вашага.
Патоля Вы мая шчымлівая,
І больш такіх нямашака.

Ад Вас той восенню прымала
Жэньшэнь, берэцік вязаны,
Тады душою адчувала:
Сяброўствам будзем звязаны.

І Вы спагадліва глядзелі...
Быў цяжкі і шчаслівы час!
І слёзы на вачах трымцелі
Ў мяне і ў Вас...

* * *

*Л. В. Паповай*

Немаўляткамі нараджаемся,
А пясчынкамі рассыпаемся.

Углядаемся ў неба зорнае,
Летуценныя, непакорныя.

Мы сняжынкамі сустракаліся
І дажджынкамі расцякаліся.

Сэрцы нашыя незласлівыя,
Душы чулыя, нешчаслівыя.

Мкнёмся думкамі да высокага,
Па жыцці ідзём адзінокімі.



У небе — сваё жыццё,
У небе — свае законы.
Падобна неба на мора,
Падобна неба на горы.

Бягуць аблачынкі гуртам,
Нібы авечкі з пашы,
Плывуць аблокі асобкам.
Што ім праблемы нашы?

Мастак нябёсаў адметны,
Ніколі не паўтараецца:
Малюе пейзажы зімовыя,
Абстракцыяй захапляецца.

Змяняюцца ў небе малюнкі,
Змяняецца мой настрой.
Плывуць разам з хмарамі думкі
Безназоўныя — чарадой.

* * *

Пеніцца вада пад вадаспадам:
Булькае, кіпіць, жыве...
Вечар чырванню праходзіць садам,
Промнямі казыча па траве.

Вобразы няведамай рукі,
Ледзь з'явіўшыся, знікаюць
І на галактычным палатне ракі
Новыя абстракцыі ўзнімаюць.

* * *

Промні крыштальным дажджом па вадзе —
Гладзь пераліўна срабрыцца.
З сонцам Арфей сваю песню вядзе,
Я — з азярцом, што іскрыцца.

* * *

Сонца белае,
размытае, павісла
над голымі дрэвамі.
Позняя восень.
Імга. Няўтульна.

* * *

Іду ў бясконцасць, у туман,
а снежань вабіць вока!
І раптам возера — падман
бясконцасці і зроку.

* * *

Час спыніўся.
Не ўздрыгне лісточак ніводзін...
І галінку не кратае вецер.
У квяцістым сваім карагодзе
Лес застыў урачыста. Вечар.

Час спыніўся.
Спакойна ў душы, наваколлі.
Сэрца светлаю поўніцца радасцю.
Адцвітае прырода паволі:
Без жарствы,
без трывог
і без зайздрасці.

* * *

У лесе Любужскім бываць я люблю:
Ён жывы для мяне, субяседнік прыемны.
У маўчанні сваім і яго я лаўлю
Паразуменне.

У лесе Любужскім люблю я бываць:
Там утульна душы і прыходзіць натхненне.
Як жа хораша мне ўсведамляць:
Лес — збавенне!

Ад нягод, гарадской мітульгі-мітусні
Лес — збавенне, адхланне маё, тая кропка,
За якую адчайна чапляемся мы
Так таропка.

* * *

У лесе — я не адна,
У лесе — не адзінокая,
І сасонка тут мне сястра,
І бярозка зеленавокая.

Абдыму я іх па чарзе,
Галавой прыхілюся,
Верхаліна ласкава шапне:
— Не хвалю-юйся.
Нібы голас ахоўны маці...

І на сэрцы стала святлей.
Быць у лесе — такое шчасце!
Я ў прыроды ўзяла прычасце —
Жыць на свеце цяпер
лагадней.

* * *

У бярозы ўсе галінкі гнуткія,
А адна непакорная — стромкая.

Што за стромкая галінка?
Трэба абламаці,
Тут бяльмом на воку
Нечага тырчаці.

Абламалі галінку,
Растапталі,
Знішчылі...

А яна вясною
З Божаю расою,
З мамчынай слязою
Зелянее весела!

## Замова

Сілы Нябесныя і Зямныя!
Дапамажыце маёй сястрыцы,
Стромкай галінцы!
Не дайце ветру-віхуры яе зламаці,
Ліхой сіле знішчыць.
Няхай дожджык яе абмывае,
Лагодны ветрык лашчыць,
Добрае слоўца лечыць,
Бяду-гора адводзіць,
Ад нячыстай сілы ратуе.
Яна не зломак, не калека,
А Божае стварэнне.
Сыдзі, нячыстая сіла,
На гнілое балота, на сухі лес.
Ты там. А мы тут.
Цьфу, цьфу, цьфу!

# У КВЕЦЕНІ ВЯСНЫ



* * *

Не шукала,
Не спакушала.
Сустрэла —
Не распазнала.

Не зберагла,
Не ацаніла,
Недакахала,
Не наталіла.



Мчыцца наша рака паўнаводная.
Мы з табой берагі — непадобныя.

Б’е каханне крынічкаю чыстаю.
Дуб схіляецца кронай вячыстаю.

Масты-рукі над рэчкай ўздымаюцца,
І паглядамі сэрцы яднаюцца.

Ты — круты беражок, я — палогі.
Разыходзяцца нашы дарогі.

І бяда ўжо бяжыць, набягае,
Спакваля беражок падмывае.

І бурлівей вада — мора чуецца...
А дзе радасць мая? А ці збудзецца?!



Косы вярба хіліць над рачной вадою,
Маё сэрца ные, мілы, за табою.

Я з табою, любы, гора не страшылася,
Без цябе слязамі горкімі умылася.

На вярбе салоўка весела спявае,
А зязюля шэрая жалобна кувае.

Ой зязюля шэрая, перастань кувацi,
Хопіць майму сэрцайку жалю надавацi.

Ты, салоўка-пташачка, хораша спяваеш,
Але ж майму сэрцайку жалю прыбаўляеш.

Не вярнуць кахання мне майго былога,
Бо зямля ўжо пухам для майго мілога.

* * *

Памяць вяртае назад
У тую вясну далёкую...
Сядзелі з табою мы пад
Яблынькай адзінокаю.

Нявестай пакінутай дрэва
У белай сукенцы стаяла,
І ты цалаваў сваю Еву —
Было пацалункаў нам мала.

З тае шчаслівай пары
І ў дождж, і ў спякоту, і ў сцюжу
Пад яблынькай цалаваліся мы,
І час пачуцці не здужаў.

Пачуцці не здужаў час,
Здужаў жыццё зямное,
Разлука лягла між нас...
Яблынька, дзякуй
за шчасце былое.

* * *

Восень шчыльна зачыніла дзверы.
І вясна мая даўно ўжо адцвіла.
Валасы заснежыла мяцеліца,
Але ж квеценню вясны той
сэрца цепліцца,
Дзе з табой шчасліваю была.

* * *

Смутак на сэрцы,
Смутак на твары,
Смутак у вачах.

Скруха галосіць,
Скруха маркоціць,
Не спіць па начах.

Радасць на сэрцы,
Радасць на твары,
Радасць ў вачах.

Шчасце смяецца,
Шчасце сваволіць,
Пяе па начах.

* * *

Цябе не спакушала.
Ты сам спакусу распесціў
Духмяным хмелем.

Цябе я не чакала.
Ты сам з’явіўся, як вядзьмак...
З атрутаю ці з зеллем?

* * *

Жаданні мрояцца,
А сэрца тоіцца...
Куды ж сцяжыначка
Нас завядзе?

Пачуцці трояцца,
А сэрца тоіцца...
Чаму ж каханенькі
Мой не ідзе?

Лячу сняжынкаю,
Ўпаду дажджынкаю,
Слёзы ільдзінкаю
Ды па шчацэ.

Жаданні мрояцца,
А сэрца тоіцца...
А дзе ж сцяжыначка,
Скажыце, дзе?

* * *

Я бачу сад у квецені вясны...
І чую гул пчаліны — рой.
І голас твой саб'ецца на бемоль,
Хвалюючы да нематы.

Я рада, што ты ёсць, павер,
Каб я магла трымацца
І каб шырэйшым быў прастор,
Але шкада, што я да зор
                                        ад бруку чорнага
Змагу падняцца
                              ў канцы жыцця,
                                                  а не цяпер.



Была спякота
і адзінота —
вокны адкрыла.

Была сустрэча,
халодны вечар —
расправіла крылы.

Была спакуса,
радасць чакання,
ўзлёт і падзенне.

Была надзея,
расчараванне,
боль і здзіўленне.

Было маўчанне,
крыўда была,
адзінота,

вокны адчынены,
дыхаць няма чым —
спякота.

* * *

Не сустрэліся
Ён і Яна. Абое
Нешчаслівыя.
А сонца ў небе свеціць,
І зоркі ноччу гараць.

* * *

Пакуль што рукі звязаны,
а можа быць, развяжуцца
пад позіркам якім.
Тады рукамі чулымі,
як птах крыламі белымі,
кагосьці абаўю.
І позіркам, як вэлюмам,
стан гнуткі мой укрыецца,
і вуснамі дрыготкімі
кахання чашу поўную
я вып’ю ўсю да дна.

* * *

Мы —
дзве маленькія кропелькі
у неабсяжных прасторах сусвету,
і Бог даў нам магчымасць
стаць адным цэлым.

* * *

Добры дзень, дарагі...
Добры дзень, дарагая...
Мы яшчэ не былі
Блізка так каля краю.

Я любіла Вас светла,
Так высока любіла!
Ваша імя святое
Дадавала мне сілы.

Пры спатканні аднойчы,
Апавіты спакусай,
Цалавалі Вы тройчы.
Нечакана — у вусны.

Пацалунак гарачы —
Ён, магчыма, штось значыць...

* * *

Дзе конь той белы?
Дзе ружовы ветразь?
І гаспадар іх смелы
Дзе?

Ружовы небасхіл...
І хтосьці ў белым
Насустрач шпарка мне
Ідзе...

* * *

У тлуме дня жадаю адзіноты,
У адзіноце трызню тлумам дня,
У цішыні я чую сэрца ноты,
У шуме глухне музыка мая.

Жыццё бяжыць галопам і алюрам,
А лёсам правіць доля непазбежнасці,
І стрэлы, што адпушчаны Амурам,
Не мне. Святкую дзень свой
незалежнасці.

# ЗЯМНОЕ КОЛА



* * *

Хвалюе кожнага, паверце,
закон бясконцасці жыцця.
І тут не будзе адкрыцця:
закон бясконцасці жыцця —
у нараджэнні,
а таксама ў смерці.

* * *

Нараджэнне...
Радасць, каханне, узлёт!
Дзеці, праблемы, работа.
Унукі — жыцця паварот.
Старасць. Нямогласць. Хвароба.
Чаканне канца.
Крыж на пагосце — Свабода
У царстве Хрыста.

Страта. Плач. І маленне.
Запозненасць прабачэння.
Нараджэнне...
Кругазварот.

* * *

Не чуем мы крыку травы пры дарозе,
Не бачым слязінкі ў вачах у дзяцей,
Не часта стаім на бацькоўскім парозе,
Жывём прагматычна: без мар і надзей.

Дык хто ж мы такія, што гэтак бязбожна
На ўсё сузіраем без болю ў душы?
Айцец наш нябесны, ці гэтак жа можна?
Як стаць нам на праведны шлях, падкажы.

## Трыялет

Імчыць мяне ў нязведанае скоры,
У кожнага цягнік і станцыя свае.
Вядуцца тут даверлівыя споры,
Імчыць мяне ў нязведанае скоры,
Але патрэбнага прыпынку нестае.
І ўсё ж надзеяй кожны з нас жыве.
Імчыць мяне ў нязведанае скоры,
У кожнага цягнік і станцыя свае.

* * *

Скроні бялеюць зімова,
І ўсё ж зразумець не магу:
Наладзіў хто свет так сурова,
Скажыце, навошта?
Чаму?

* * *

Шчырае слоўка
Пачула,
Адно слоўка —
Добра на душы,
Светла сталася.
Вось так заўсёды б.

* * *

Клічнікі, коскі,
Шматкроп’і, пытальнікі.
У дзверы кропка
Пастукалася.
Старасць прыйшла ўжо?

* * *

Куды паўзеш, казявачка?
Спыніся. Там машыны,
І там твая смерць.

Куды ідзеш, чалавек?
Не спяшайся. Насустрач
Смерці ідзеш.

## Юбілейны дзень

Дождж шуміць за акном,
Гром з лянотай ступае,
Тэлефонным званком
З юбілеем вітае
То сябрук, то радня,
То далёкі знаёмы...
І пайшла бегатня
Да ламоты, да стомы.

Дзень закончыўся. Вечар
Наваколле ахутаў,
Парафінавых свечак
Мігаценне і смутак
Мне пакінуў. Застаўся
Успамін. Адзінота.
Шлюбам месячык ўзяўся
З ноччу. Ах, сардэчныя ноты.

* * *

Адышло дзяцінства,
Скошана трава.
Адцвіла ўжо вішня,
Адцвіла вясна.

Праімчала лета
Весела з дажджамі,
Маладой каметай,
Сонечнымі днямі.

Саступіла восень —
Лістапад гадоў.
Інеем на косы —
Замець халадоў.

* * *

З Божае ласкі жывём мы на свеце,
З Божае ласкі галубім каханых,
З Божае ласкі з’яўляюцца дзеці,
З Божае ласкі працуем аддана.

З Божае ласкі нам пішуцца вершы,
З Божае ласкі — узлёты й падзенні,
З Божае ласкі, калі ты не першы,
З Божае ласкі — іспыты й надзеі.

* * *

Ідзе чалавек адзінокі
І з кімсьці гаворку вядзе:
— Мне кажа начальнік высокі:
«Не можам дарадзіць тваёй мы бядзе,
Бо важны маем указ,
Парушыць які немагчыма», —
І піша паперу-адказ.

Не трэба той просьбе-казюрцы,
Не трэба ні ўказаў, дазволу,
А росчырк пяра на цыдулцы
І слова,
          адно
                    чалавечае
                              слова.



Абмежаваны ад нараджэння да смерці.
Не дай, Божа, ад абмежаванняў памерці.

Абмежаваны дзяржавай, законамі,
Навучальнымі ўстановамі.

Абмежаваны ўмовамі бытавымі,
Праблемамі радавымі.

Абмежаваны хамствам і пыхаю,
Каб яны так дыхалі.

Абмежаваны скрыўленай свядомасцю,
Местачковай вядомасцю.

Абмежаваны лесвічнымі праёмамі,
Сябрамі, знаёмымі.

Абмежаваны сайтамі, сектамі,
Лекамі, бездухоўнымі калекамі.

Абмежаваны кватэрамі, межамі,
Гастралёрамі заезджымі.

Абмежаваны яснавідцамі, гадалкамі,
Абавязкамі, як удаўкаю.

Абмежаваны станам здароўя,
Абмежаваны зменай надвор'я.

Абмежаваны чуткамі, плёткамі,
Суседкамі-цёткамі.

Абмежаваны прымхамі, прастораю
І дзяржаўнаю моваю.

Абмежаваны людзьмі хіжымі,
Каб усе яны выжылі,
Каб жыццё не здалося малінаю.

Толькі Бог не пакінуў бы.

* * *

Я маўчу, маўчу, трываю...
*Якуб Колас*

Я маўчу, маўчу, трываю,
але потым гавару
матку-праўду,
што патрэбна,
мабыць, толькі адной мне.

Я маўчу, маўчу, трываю,
але потым узарву-у-ся!
Разляціцца
у паветры
непатрэбнае нікому.

Усе маўчаць, маўчаць, маўчаць.
Сэрца вытрымаць не можа:
зверху — ціш,
унізе — гразь
непатрэбная нікому.

Я маўчу, маўчу, трываю,
але потым гавару
матку-праўду,
што патрэбна
каму-небудзь мо яшчэ.

* * *

Я стамілася жыць па чужых правілах,
Я стамілася быць тактоўнаю і харошаю,
Не спраўляюся ўжо, не пад сілу мне
З такой ношаю.

Раскудлаціць бы думкі і пусціць па ветру,
Распіліць бы на сэрцы жалезныя краты,
Сваю існасць на волю выпусціць,
толькі —
Цяжка, калі адна ты.

Колькі ж можна быць абавязанай
Усім на свеце, а табе — чалавек ніводзін?!
Па руках і нагах абавязкамі звязана.
Развяжы, Госпадзі.



Падземнае кручу верацяно.
І набягаюць думкі хвалямі...
І вось сяджу і гавару з Басё
Пра хайку, ды чамусьці ямбамі.

Ван Гог вар’ятам на мяне глядзіць,
Заносіць нож над вухам,
Сваім, канешне, не маім,
А я Басё ўсё слухаю і слухаю.

І раптам промнем
кропка Мандэльштама
У небе засвяцілася!
І мексіканкі Фрыды драма
Сюррэалістычнымі палотнамі
раскрылася.

Ўзнікае жоўты дом перада мной
І поле, што з варонамі,
І скрыпка плача за сцяной,
А я схіляю голаў прад іконамі.

* * *

Прабач, прабач, Зямля-матуля!
Прабач грахоўнае маё жаданне.
Я не цураюся твайго святога ўлоння,
Але... мой прах няхай агонь ачысціць.

Бліжэй да бацькі-Неба быць хачу,
Да срэбных зор і месяца Яго.
Адтуль змагу я сузіраць
Ўсю прыгажосць тваю зямную.

Прабач, прабач, Зямля-матуля!
Прабач, душа прастору просіць.

* * *

Я прашу у Бога,
я прашу у неба
аднаго.
Каб далі не хлеба,
а далі мне Слова
для таго:
выказаць не думкі —
ўсе яны чужыя, —
сэрца трапяткое
выказаць сваё.

# Змест

## У КВЕЦЕНІ ВЯСНЫ



## ЗЯМНОЕ КОЛА

**Аўсяннікава, Т.**

А11 Скрыжалі : вершы / Тамара Аўсяннікава. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 68 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 62).

ISBN 978-985-7119-50-9.

Кніга выбраных вершаў Тамары Аўсяннікавай складаецца з трох раздзелаў: «Родныя вобразы», «У квецені вясны», «Зямное кола». Аўтар узнаўляе ў памяці дарагія сэрцу імёны і вобразы, па-філасофску асэнсоўвае зямное жыццё.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4Беи)-5**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 62

**Аўсяннікава** Тамара

**СКРЫЖАЛІ**

*Вершы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Б. Сачанка*
Вёрстка *Л. Гарадзецкай*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 9.04.2015. Фармат 80х100 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10,37.
Ул.-выд. арк. 4,22. Наклад 150 ас. Зак. 152.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 01.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.